

# НЕ СІЛАЙ, А РОЗУМАМ

Беларуская народная казка

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Н38

Серыя заснавана ў 2004 годзе

Мастак
В. В. Дудаpанка

*Для дашкольнага ўзросту*

ISBN 985-02-0680-2



Пайшоў чалавек у лес рубіць дровы. Нарубіў, прысеў на пень адпачыць.



Прыходзіць мядзведзь:

— Гэй, чалавеча! Давай з табой пабарукаемся!



Зірнуў чалавек на мядзведзя: такі здаравенны — куды з ім барукацца. Сцісне лапамі — і канец.



— Э-э,— кажа чалавек,— што мне з табой барукацца! Давай спачатку паглядзім, ці ёсць у цябе сіла.



— А як будзем глядзець? — пытаецца мядзведзь.

Узяў чалавек тапор, расшчапіў пень зверху, увагнаў у шчыліну клін і кажа:

— Раздзярэш гэты пень лапай — значыць, ёсць сіла. Тады мы з табой пабарукаемся.

І мядзведзь, не доўга думаючы, тыц лапу ў шчыліну.



А чалавек тым часам абухом тапара выбіў клін са шчыліны.

Тут пень і сціснуў мядзведжую лапу быццам абцугамі.

Раве мядзведзь, прытанцоўвае на трох лапах, а расшчапіць пень і вырвацца не можа.



— Ну што,— кажа чалавек,— будзеш са мной барукацца?

— Не,— раве мядзведзь,— не буду!

— Вось,— сказаў чалавек,— не толькі сілай можна змагацца, а і розумам.



Увагнаў ён зноў клін у шчыліну, мядзведзь выцягнуў лапу — і наўцёкі ў лес.

З той пары і баіцца ён з чалавекам сустракацца.




Літаратурна-мастацкае выданне

КАЗКА ЗА КАЗКАЙ

**НЕ СІЛАЙ, А РОЗУМАМ**

Рэдактар *С. У. Фядотава*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*
Стылістычны рэдактар *Л. А. Дзядзюля*

Падпісана да друку 22.01.04. Фармат $70 \times 90^1/_{16}$. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 1,17.
Улік.-выд. арк. 1,55. Тыраж 3000 экз. Заказ 158.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку». 220024, Мінск, вул. Каржанеўская, 20.